# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1620) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 31 МАЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.



**Віцэ-ваявода Ежы Слезак вядомы тым, што пільна сочыць за ўсімі, нават дробнымі, культурнымі з'явамі ў ваяводстве. На здымку Ежы Слезак на адной з выставак беластоцкай галерэі „Арсенал".**

**фота Г. Рагазінскага.**




**Віцэ-ваявода:** Аналіз за 1986 год паказвае, што прыгранічная паласа нашага ваяводства ў культуры — слабая паласа. Слабасць культуры вынікае з эканамічнай слабасці. Зрэшты, уся беластоцкая культура мае такія самыя недахопы. Першы з іх — кадры. Я ў кожную хвіліну магу прыняць да працы ў гміне кожнага чалавека, які валодае беларускай мовай і хоча працаваць у культуры. Мы не маем патрэбных інструктараў у многіх гмінных цэнтрах культуры.

Прыгранічная тэрыторыя з беларускім насельніцтвам — то больш за трэцюю частку ваяводства — 35 прац. Да 1986 года тут наогул усе ГОКі былі вельмі слабыя — адна асоба была да ўсяго. У 1986 г. мы ўзмоцнілі ГОКі ў Дубічах-Царкоўных, Чыжах, Дарожках, Нарве, Нараўцы, Новым Двары, Нурцы, Сідры, Сухаволі, усюды там далі па адным штаце. Штаты атрымалі з Варшавы з Фонду развіцця культуры. Каго мясцовыя ўлады знайшлі на гэтыя штаты, то ўжо не залежала ад нашага аддзела культуры. Штогод будзем павялічваць штаты працаўнікоў ГОКаў у гмінах.

Але трэба — і хачу, каб вы гэта падкрэслілі — каб на месцы ў гмінах больш займаліся культурай і кадрамі для яе. Там, на месцы, у гміне трэба шукаць людзей. Няхай начальнік знойдзе чалавека, які любіць беларускую культуру, які хоча яе развіваць і няхай ставіць яго працаўніком у сваёй гміне. Ён, начальнік, выбірае, не мы.

Вельмі добрых, найлепшых працаўнікоў культуры маюць Саколка, Бельск, Гайнаўка, Белавежа, Бранск. (Віцэ-ваявода падкрэслівае ролю дырэктараў гэтых ГОКаў і дамоў культуры, па прозвішчы называе С. Лукашука, М. Бушко, кажа, што з вялікім прызнаннем і ўдзячнасцю адносіцца да ініцыятываў і ролі ў беларускай, а затым і беластоцкай культуры гэтых людзей). Мы адкрыты, кожная ініцыятыва патрэбна. Няма падзелу ў нашым ваяводстве на культуру беларускую і культуру польскую. І было б вялікай памылкай насаджаць якому-небудзь калектыву з беларускай мясцовасці рэпертуар чужы яму. Няхай спявае свае песні — у гэтым яго вялікая роля. Народ-

**(Працяг на стар. 4)**

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

27 красавіка 1987 г. на пасяджэнні Прэзідыума ГП БГКТ разглядаліся праблемы навучання беларускай мовы ў школьным годзе 1986/87. У пасяджэнні прыняў удзел візітатар Куратoрыі асветы і выхавання Стэфан Крэнтоўскі і настаўнік-методык па беларускай мове Тамара Русачык.

Зараз у 61 пачатковай школе (разам з іх філіяламі) беларускую мову вывучае амаль 3700 вучняў. Аднак пры арганізаванні навучання роднай мовы выступае многа цяжкасцей. Дагэтуль не апрацавана новая праграма навучання, не хапае падручнікаў і дапаможнікаў да некаторых класаў. З-за кадравых недахопаў не арганізуецца або спыняецца навучанне беларускай мовы ў некаторых школах. Напрыклад, у Вульцы Нурэцкай (гм. Нурэц-станцыя) пад канец 1986 г. настаўніца пайшла ў водпуск і ў выніку спынена навучанне роднай мовы ва ўсёй школе.

Прэзідыум ГП выказаў сваю занепакоенасць адмоўнымі з'явамі, якія выступаюць у навучанні беларускай мовы, і звярнуўся да асветных улад з просьбай прыняць меры дзеля іх паспяховага вырашэння.

Затым члены Прэзідыума ГП заслухалі інфармацыю аб ходзе выканання пастановы X з'езда БГКТ ва ўнутрыарганізацыйных справах.

**В. Луба**

ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

## ДАРОГА Ў НЕВЯДОМАЕ

Эшалон са свістам імчаўся па рэйках. За вокнамі мільгацелі нейкія пасёлкі. Цішыню чэрвеньскай ночы часценька парушалі вогненныя слупы ўзрываў, ад якіх звінелі шыбы ў вокнах, а вагон калыхаўся, як у ліхаманцы.

Тры вагоны ў гэтым эшалоне займалі дзеці з Беластоцкага піянерскага лагера, якія адпачывалі ў Друскеніках. Сярод іх знаходзіўся 13-гадовы Рамуальд Зайкоўскі.

— Мы былі ўпэўнены, — гаворыць ён, — што вяртаемся ў Беласток.

Эшалон імчаўся. Дзеці не ведалі куды. Іх апекуны, праўдападобна, таксама. Яны толькі намагаліся як мага хутчэй вырвацца з небяспечнай зоны. Ніхто ж тады не дапускаў нават думкі, што гэтая крывавая вайна зацягнецца амаль на чатыры гады.

— Найперш мы апынуліся ў Вільнюсе, — успамінае палкоўнік Зайкоўскі. — Адтуль наш эшалон накіравалі на Маладзечна і Мінск...

Іншыя ўдзельнікі гэтай нespадзяванай экскурсіі пад бомбамі, з якімі я гутарыў, таксама гаварылі мне аб цяжкасцях гэтага падарожжа. Аднак дзецям, сапраўды, пашчасліла ў гэтым няшчасці. Ніхто не быў паранены, нікога не забіла.

— Гэтая дарога яшчэ і сёння часта мне сніцца, — прызнаецца пасівелы палкоўнік. — Уявіце сабе ноч, у вагонах цёмна, малодшыя дзеці плачуць уголас, клічуць бацькоў і ніхто не ведае, куды і чаму нас вязуць... І гэты цяжкі, пульсуючы грукат магутных бамбардзіроўшчыкаў... Здаецца, вось-вось і ўзляцім мы ў паветра... А як толькі сонца з'яўлялася на даляглядзе, дык тут жа даганялі нас варожыя штурмавікі. Эшалон тады спыняўся, а дырэктар Пеўзнер загадваў браць за рукі найменшых дзетак і хавацца ў полі, у карчах, або звычайна пад вагоны... Аднойчы... не памятаю дзе, здаецца, недзе, пад Маладзечнам, можа ўжо і пад Мінскам... на нейкім прыпынку хацеў я выскачыць за вадою, бо ўсім нам страшэнна хацелася піць. Стаяла ж чэрвеньская спёка, а мы панаядаліся салёных кансерваў і кумпякоў, якія дырэктар Пеўзнер загадаў браць нам у Друскеніках. Хлеба мы не мелі.

**(Працяг на стар. 4)**

# „Песня пра зубра“ і іншыя

Прырода Белавежскай пушчы ачароўвае не толькі польскіх кіназдымшчыкаў. Часта наведваюць пушчу і савецкія рэалізатары. У беларускай частцы гэтага славутага ляснога комплексу дагэтуль зняты восем навукова-папулярных і дакументальных кінафільмаў, не кажучы ўжо пра шматлікія тэлевізійныя рэпартажы.

Работа над першым такім кінафільмам была закончана ў 1952 годзе. Кінафільм гэты меў назву „Белавежская пушча“. Паводле сцэнарыя М. Блісцінава, рэалізаваў яго С. Сплашноў супольна з В. Стральцовым. Здымкі выканалі А. Булінскі і Пікман. Першы белавежскі трохсерыйны кінафільм рэалізаваны быў на каляровай кінастужцы (зрэшты, наступныя таксама былі зроблены на каляровай). Расказвалася ў ім пра жывёльны ды раслінны свет запаведніка і пра навуковыя даследванні ў ім. Работа над наступным кінафільмам — „Казка Белавежы“ — закончылася ў 1961 годзе. Фільмавалі І. Вейнаровіч і В. Шаталаў, а сцэнарый напісаў пісьменнік М. Калачынскі. У гэтым кінафільме была паказана прыгажосць не толькі Белавежскай пушчы, але і Палесся. Яго рэалізацыя адбылася на звыклай шырокай кінастужцы.

С. Сплашноў неўзабаве зноў наведаў Белавежскую пушчу. Тады зрабіў ён два кінафільмы, якія на экранах кінатэатраў Савецкага Саюза былі паказаны ў 1968 годзе. Гэта былі: двухсерыйная „Белая вежа“, фільмаваная аператарам І. Лейбманам на падставе сцэнарыя А. Вялюгіна і С. Сплашнова, і гэтакая ж двухсерыйная „Белавежская пушча“ паводле сцэнарыя пісьменнікаў А. Клышкі і Я. Сіпакова. У абодвух кінафільмах паказаны свет раслін і жывёлаў запаведніка, штодзённыя клопаты ў ім.

У 1970 годзе савецкія гледачы ўбачылі новы дакументальны кінафільм „Белавежскі зубр“ Сцэнарый напісаў Н. Магільны. рэжысёрамі былі В. Ціслюк і І Крысніцкі. Кінааператарам быў той жа І. Лейбман.

Два чарговыя навукова-папулярныя кінафільмы былі прысвечаны грыбам. У 1973 годзе закончылася работа над чатырохсерыйным кінафільмам „Грыбы“, які рэалізавалі М. Гарленка, Л. Гарыбава, П. Міхалевіч. У 1975 годзе быў зроблены кінафільм „Не ведаеш грыба — не бяры“. Яго рэжысёрам быў С. Браўдэ. а сцэнарыстам — Б. Каваленка. Здымаў М. Бераў.

Восьмы кінафільм пра Белавежскую пушчу — „Песня пра зубра“ (1980 г.). Зроблены быў ён для тэлебачання. Сцэнарый напісаў Э. Перагуда, а рэалізаваў В. Булдзіс. Кінафільм гэты быў зроблены на матывах слаўнай лацінскай паэмы вялікага беларускага паэта эпохі Рэнесанса Міколы Гусоўскага.

Большасць усіх гэтых кінафільмаў была рэалізавана кінастудыяй „Беларусьфільм“. Кінафільм „Казка Белавежы“ падрыхтавала Мінская студыя навукова-папулярных і хранікальна-дакументальных фільмаў. Карціну „Грыбы“ рэалізаваў маскоўскі „Цэнтрнавукфільм“, а „Песню пра зубра“ — „Тэлефільм“.

**Пётр Байко**



**І чаго толькі ў Белавежскай пушчы не бывае!**

**Фота Войцеха Рынажэўскага**

# Хроніка

**Красавік 1987 г.**

**5 — У клубе БГКТ у Бельску-Падляшскім адбыўся чытальніцкі конкурс. ГП БГКТ і рэдакцыя „Нівы“ арганізавалі яго з мэтай папулярызацыі творчасці беларускіх пісьменнікаў. У конкурсе прыняло ўдзел 19 асоб. Два першыя месцы заваявалі вучаніцы Агульнаадукацыйнага ліцэя імя Б. Тарашкевіча ў Бельску: Эльжбета Бэзюк і Ева Навіцкая. Другія месцы здабылі Анна Мушыц з Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім і Крыстына Місеюк з Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы, а трэція месцы — Эльжбета Маслоўская, Іялянта Дзмітрук і Яраслаў Іванюк — усе з Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім.**

**6 — У Гаўнаўцы, у пачатковай школе № 3, адбылася раённая метадычная канферэнцыя настаўнікаў беларускай мовы. Канферэнцыю падрыхтавала і вяла мгр Тамара Русачык — метадычны інструктар па гэтаму прадмету.**

**15 — У Беларускім агульнаадукацыйным ліцэі імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску-Падляшскім група вучняў уступіла ў рады БГКТ. На ўрачыстым сходзе членскія білеты ўручыў старшыня Бельскага аддзела БГКТ Васіль Ляшчынскі.**

**25 — У гмінных асяродках культуры ў Дубінах і Кляшчэлях адбыліся раённыя эліміналцыі школьнага конкурсу „Беларуская песня-87“.**

**28 — У Бельску-Падляшскім адбыліся раённыя элімінацыі конкурсу „Беларуская песня-87“ для школьнікаў. У элімінацыях удзельнічала 38 вучняў — пераможцаў школьнага агляду.**

**В. Луба**

**ЗАПРАШАЕМ**

У нядзелю, 31 мая 87 г., у Дом культуры рамеснікаў у Беластоку, вул. Варшаўская 6, а гадзіне 10.00 на **агляд беларускіх тэатральных калектываў.** Абяцаюць выступіць калектывы з Беластока, „Парнас“ з Бельска-Падляшскага, Грабянёў і Паўлаў.

У чацвер, 4 чэрвеня 87 г., у Дом настаўніка ў Беластоку, вул. Варшаўская 8, а гадз. 18.00 на даклад мгр. Антона Мірановіча **„Нацыянальная свядомасць у беларускім асяроддзі Беласточчыны“**, які арганізуе гістарычная секцыя ГП БГКТ.

**ГП БГКТ**

# Першы прыгранічны

1 чэрвеня г.г., у Беластоку, у выставачных аб'ектах на вул. Кавалерыйскай, а 11-й гадзіне урачыста адкрыецца Першы кірмаш прыгранічнага абмену.

З боку Савецкага Саюза ў ім будуць удзельнічаць шматлікія вытворчыя прадпрыемствы і гандлёвыя арганізацыі з Гродзенскай вобласці Беларускай ССР і Літоўскай ССР, а таксама чакаецца прыбыццё паўнамоцных прадстаўнікоў міністэрстваў гандлю Беларускай, Украінскай, Літоўскай, Латышскай і Эстонскай Савецкіх Рэспублік дзеля наладжання абмену з Польшчай у бліжэйшыя гады.

Ад Польшчы ў Кірмашы прымуць удзел: Аб'яднанне прадпрыемстваў унутранага гандлю, цэнтралі і фірмы замежнага гандлю „Torimex“, „Polcoop“, „Społem“, CRS, CSOP і шматлікія гандлёвыя прадпрыемствы з Беластоцкага, Белападляшскага, Замойскага, Кросненскага, Люблінскага, Перамышльскага, Сувальскага, Холмскага і Эльблёнгскага ваяводстваў.

На Кірмашы прадстаўнікі савецкіх і польскіх гандлюючых арганізацый азнаёмяцца з запрапанаванымі абодвума бакамі да абмену таварамі, якія будуць знаходзіцца ў павільёнах № 7, 8, 9, 11 і на працягу 2-9 чэрвеня падпішуць адпаведныя дагаворы аб узаемных пастаўках. Польскі бок прапануе для абмену тавары вартасцю больш за 20 мільярдаў злотых. Гэтыя павільёны будуць адкрыты для ўсіх наведвальнікаў штодня пасля 16-й гадзіны.

Багаты выбар савецкіх і польскіх тавараў для набыцця кожны з наведвальнікаў кірмашу знойдзе ў павільёнах № 3, 4, 5 і ў хатах № 1-20, а пасілкавацца стравамі беларускай і літоўскай кухні можа ў павільёне № 6.

Кірмаш аздобяць шматлікія культурныя імпрэзы.

У павільёнах № 1 будзе адкрыта выстаўка, прысвечаная польска-рускім і польска-савецкім узаемасувязям у розных галінах грамадскага жыцця, гаспадаркі, навукі і мастацтва з галоўным акцэнтам на 70-й гадавіне Вялікага Кастрычніка і ўдзеле ў ім палякаў. У павільёне № 2 наведвальнікі пазнаёмяцца з грамадска-гаспадарчымі дасягненнямі Гродзеншчыны і прыкладным (ужытковым) мастацтвам Літвы. Аж на пяць дзён прыязджаюць у Беласток, каб на эстрадзе Кірмашу даць кожнага дня тры выступленні, калектывы песні і танца з Гродзеншчыны „Нёман“ і „Ляваны“, а з Літоўскай ССР — „Вілія“ і мастацкі калектыў з Тракяйскага раёна. З СССР на выступленні прыязджае больш за 190 спевакоў, танцораў і музыкаў. Разам з імі выступіць каля 90 калектываў з Беласточчыны (фальклорныя, дзіцячыя, маладзёжныя і інш.), а таксама вайсковыя аркестры з Варшавы, Кельцаў, Кракава, Любліна, Жэшава — разам каля 250 музыкаў. Значыць, Кірмаш будзе таксама своеасаблівым мастацкім фестывалем дружбы Беласточчыны, Гродзеншчыны і Літоўскай ССР.

Кірмаш будзе адкрыты 1-9 чэрвеня з 11-й да 19-й, закрыецца ён 10 чэрвеня а 11-й.

Арганізатары і апекуны Першага кірмашу прыгранічнага абмену — Галоўнае праўленне ТППР, Міністэрства ўнутранага гандлю і паслуг, Ваяводскі камітэт ПАРП у Беластоку, Беластоцкі ваявода, Ваяводскае прадпрыемства ўнутранага гандлю, Ваяводскі дом культуры — запрашаюць усіх на гэтую цікавую імпрэзу. **(мг)**




## НАНАЧ ЗАСТАЛАСЯ — ВЯСЕЛЛЕ БУДЗЕ

Паважаны Мікалай Панфілюк! Вы мяне крыху не зразумелі. Я не пісаў, што жанчыны менш вартыя за мужчынаў, ці што ў жанчынаў жыццё лягчэйшае. Я пісаў у справе элеганціка, якога пакінула жонка. Аўрора абвінавачвала яго. А жыхары гавораць па-рознаму. А канкрэтна ніхто не ведае, чыя была віна, што яны разыйшліся. Відаць, лёс так пакіраваў імі, што яны развяліся і па-свойму пачалі жыць. Элеганцік мае сабе жанчыну цяпер, а элегантка мае ўжо сабе прыяцеля-мужчыну. На судзе аб развод іх спачатку хацелі пагадзіць, але яны хацелі разводу. Адносна жыцця, то вядома, што, так наогул беручы, у жанчын больш абавязкаў ды клопатаў, чымсьці ў мужчын. Яны, жанчыны, ужо так створаныя, што мусяць быць цяжарнымі, радзіць і дзяцей гадаваць, парадкі ў хаце наводзіць, мыць і абмываць, і есці гатаваць і ўгадаць пасаліць. Ну, але жанчыны створаныя для жаночай работы, а мужчыны для мужчынскае, і адно аднаму дапамагаць павінны, бо аднаму цяжка жыць. Жанчына, самою жывучы, лепей дагледзіць дзяцей, чымсьці адзін мужчына. Аднак ёсць і такія мужчыны, якія, адзінока жывучы, утрымліваюць парадак дома і чысціню. Ёсць і жанчыны, якія вельмі спраўна робяць мужчынскую работу: аруць і сеюць, косяць, дровы рубаюць, нават адна жанчына пілавала падоўжнай пілою, стоячы ўгары на калодцы.

Калі жонка пачынае занадта хадзіць каля свайго мужа, а муж вельмі ўжо стаяць у кухні, таўчыся задніца аб задніцу, то жонка такая не будзе мець пацехі з яго ў нечым іншым, так сказаць, таксама важным у супольным жыцці, у сужонстве. Знаходзяцца жонкі, якім даць есці свінням надта ж цяжка, а знаходзяцца і такія, якія накормяць свіней, самі будучы нават у святочным адзенні, і нічога такой не станецца, і не запэцкаецца. Цяпер жа шмат у каго выгоды тае поўна. Ва ўсім выгода: і ўсюды гараць электрычныя лямпачкі, у хлявах таксама, і вадаправоды ёсць, вада халодная і вада цёплая, і ванны. У мяне ўжо, дзеткі вы мае, год будзе, як ванна стаіць. Калі я з жонкаю былі маладзейшымі, то жонка казала: „Гавораць людзі, што ў месце зусім па-іншаму жывуць, бабы аб талію дбаюць, зграбныя яны, тоненькія“.

Ну так, тыя меставыя бабы часам мусяць быць тоненькія, таму што калі яна купіць яйка, а яшчэ і нясвежае, то ж мусіць з'есці яго, бо заплаціла грошы. А ў нас, у вёсцы, яйкі заўсёды свежыя, малако не ад цэнтрафугі, смятана такая, што хоць ты яе нажом рэж, каўбаса-пальцоўка, зробленая не як чужому, але як сабе самому, не баранячая, гародніна зусім свяжуткая, толькі што з загона вырваная, і бульба без штучнага гною, а жа ж ад бульбы наймацней трыбух раздзімае. Стравы тае можна есці, хоць балею цэлую, ніхто

(Працяг на стар. 5)




*Стары Беласток. Вуліца Мазавецкая. Мал. Уладзіслава Петрука.*

(Працяг са стар. 1)

ныя калектывы патрэбныя культуры. Тут справа захавання традыцыі, фальклору. Народныя калектывы мусяць мець свой корань на месцы, у сябе. (Размоўца падае прыклад, калі чуў ён нядаўна шлёнскія песні ў выкананні народнага калектыву з другога канца краіны. „Ці ж у іх няма сваіх мясцовых песень, каб спяваць іх усюды“, — заўважае).

Найпрыгажэйшая культура, то культура пагранічча. У мяне няма наконт гэтага сумнення, ні комплексаў. Я сам паходжу з Віленшчыны і адчуваю сябе свойска, калі, праязджаючы праз Трасцянку, заходжу ў краму і чую да сябе пытанне: „Вам чаго трэба“.

Другая справа: база культуры. Добрыя базы культурнай дзейнасці маюць такія цэнтры: Саколка, Гайнаўка, Бельск, Сямяцічы, Боцькі, Кляшчэлі, Кузніца, Шудзялава. 26 прац. асяродкаў культуры ў ваяводстве мае добрую базу. Катастрафічная база ў Сухаволі, Нарве, Нурцы. У бягучай пяцігодцы ўсе ГОКі будуць папраўлены, адрамантаваны. Папоўніцца іхняе абсталяванне. І хачу сказаць, што трэба націскаць на начальнікаў гмін і гарадоў, каб таксама дбалі пра культуру, як дбаюць пра гаспадарку. Недаацэньваецца ў нас культуру ў гмінах. Некаторыя ГОКі змяншаюць свае гадавыя біюджэты, не выкарыстоўваюць грошай. Ёсць такія дзіўныя мясцовасці і людзі, якія нямногага хочуць і не дамагаюцца больш, напрыклад, Дубічы, Кляшчэлі, Міхалова, Сідра, Гарадок. З боку гэтых ГОК-аў не было націску на ваяводства, каб атрымаць дадатковыя фінансы, каб нешта выстарацца.




**„Ніва“:** Ці патрэбны націск на вас, каб нечага дабіцца?

**Віцэ-ваявода:** Патрэбны. Калі начальнік часцей кантактуецца з адказным за справы віцэ-ваяводам, калі прыязджае, націскае, дамагаецца, то і атрымлівае. Абавязкова запішыце прыклад Белавежы. Начальніка Яўгена Паўлючука я вельмі высока цаню. Ён безупынна змагаецца за культуру ў сваёй гміне. І вельмі многага дабіўся. Ён, напрыклад, уладкаваў усе праблемы, звязаныя з базай культуры ў Белавежскай гміне. Я быў у яго гміне. Мы супольна абмеркавалі многа важных спраў, і ўсё ён рэалізаваў, або рэалізуе. Ён два разы ў месяц прыязджаў, прадстаўляў свае патрэбы і атрымліваў нашу дапамогу і падтрымку. Ён, зрэшты, вельмі добры начальнік і ва ўсіх іншых галінах дзейнасці гміны.

**„Ніва“:** Значыць, трэба начальнікам да вас прыязджаць і націскаць?

**Віцэ-ваявода:** Начальнікі мусяць і павінны так рабіць. Гаворачы яшчэ пра базу, скажу, што напэўна ў гэтай пяцігодцы і яна ў нас палепшыцца, але трэба за гэта змагацца і на месцы ў гміне шукаць саюзнікаў і сродкаў і ў ваяводстве.

**„Ніва“:** Крыху аб Беларускім грамадска-культурным таварыстве і яго ролі ў культуры.

**Віцэ-ваявода:** Беларускае таварыства павінна ўзмоцніць супрацоўніцтва з рознымі культурнымі ўстановамі. Я не маю права ацэньваць БГКТ, але яно павінна больш дбаць пра культуру. Трэба шукаць саюзнікаў, увогуле прымаць поўны ўдзел у культуры, у яе стварэнні і развіцці. Культура, як вядома, лагодзіць абычаі. Кожная! Паўтараю: няма беластоцкай культуры без беларускай культуры. Важна для ваяводства, каб культура была, каб развівалася, пашыралася.

Размову запісала
**Вера Валкавыцкая**




(Працяг са стар. 1)

Вады таксама, бо і трымаць яе не было ў чым. Вось і рашыў я выскачыць за вадою. Прабіраюся да дзвярэй, а перада мной ціснецца нейкая жанчына. Адчыніла яна дзверы, а тут кулі як гарохам: та-та-та! І гэтая жанчына на маіх вачах паляцела пад вагон. Я ўпаў на падлогу амаль без памяці і чакаю сваёй чаргі...

Найгорш давялося ім між Маладзечнам і Мінскам. Тут я рашыў спаслацца на ўспамін Эдварда Станішэўскага, пра якога даводзілася мне ўжо ўспамінаць, ведучы расказ пра лёс даўнейшых „дзяцей з Каракуліна“.

— У 1979 г., — гаворыць ён, — сабраўся я на экскурсію па Савецкім Саюзе. Маршрут яе якраз супадаў з гэтым шляхам, якім мы вандравалі ў чэрвені 1941 г.: Беласток, Гродна, Вільнюс, Маладзечна, Мінск, Масква. Асабліва хваляваўся я між Гроднам і Мінскам. Успаміны проста табуном наплывалі, адрывалі ад гаманлівай кампаніі сяброў, прымушалі зноў і зноў перажываць колішняе. Я амаль без перапынку стаяў на калідоры, не адрываючы вачэй ад сустрэчных краявідаў. Вось Гродна. Тады, у чэрвені 1941 г., наш эшалон прастаяў тут, здаецца, цэлую ноч. Ніхто з вагонаў не выходзіў. Цяжка цяпер мне меркаваць, чаму мы, хаця б крыху старэйшыя юнакі, не паўцякалі з Гродна дамоў. Ніхто ж нас пільна не сцярог, ніхто не трымаў пад зброяй. Здаецца, мы ўсё яшчэ спадзяваліся, што павязуць нас у Беласток. І... страшнавата было. Памятаю, у нейкіх двухстах метрах ад нашай станкі гарэў адзіночны вагон. Гаварылі, што ён са зброяй, што яго адчапілі ад цэлага эшалона, каб пазбыцца небяспекі. І сапраўды, незадоўга, паветрам ускалыхнуў страшэнны выбух, вогненныя смерчы дасягнулі і нашыя вагоны. Давялося гасіць агонь. На світанні рушылі мы ў дарогу. Цягнік імчаўся, а над намі зноў ды зноў паяўляліся варожыя самалёты... У Вільнюсе крыху нашых сяброў адлучылася ад нашага транспарту. Пакінулі дзяцей некаторыя мясцовыя апекуны і піянерважатыя. Я таксама збіраўся ўцякаць, бо тут мы ўжо канчаткова даведаліся, што дарога на Беласток адрэзана, што нас адпраўляюць недзе на ўсход, каб там перачакаць нядоўгі час, пакуль пераможная Чырвоная Армія пагоніць назад варожыя сілы... Дырэктар Пеўзнер прасіў, каб не плакалі, не перажывалі, каб захоўвалі спакой і парадак, што ўсё будзе добра. І вось уявіце сабе маё становішча. Амаль 40 гадоў пазней еду я па гэтым жа самым маршруце. Гляджу ў акно і думаю... Не, хвалююся, нават да болі заціскаю свае спрацаваныя рукі. Чаму цягнік не спыняецца? То ж трэба схавацца ў полі або пад вагон, бо зараз пачнецца абстрэл. Ужо чуваць пранізлівы грукат нямецкага штурмавіка... Мінск. Выскачылі мы за вадой. Бегаем па станцыі, каб знайсці якую-небудзь пасудзіну, але нічога прыгоднага для




(Працяг са стар. 5)

яны нашы?“ А я: „Нашто мне іх здаваць, няхай сабе брыкаюць“.

Няхай жанчыны, але і мужчыны пішуць, што мужчыны горшыя ад жанчын. Адны і другія ёсць жа ўсякія. Яшчэ не вынайшлі такога камп'ютэра, каб пазнаваць, хто тут горшы. Праўда, мужчыніскі сёння п'юць, але і прычыны на тое ёсць не абыякія. У гэты наш час, каб жанчыны былі мужчынамі, дык таксама пілі б. Некаторыя мужчыны ставяць пытанне: што гэта было б, калі б жанчыны так пілі? Я адразу адкажу: было б намнога горш! П'яны мужчына неяк дасць карове сена, бо сена не трэба заварваць, а п'яная жанчына магла б нагатаваць абы-чаго ды і самая магла б апарыцца або абсмаліцца. І яшчэ адна вялікая розніца паміж мужчынаю і жанчынаю: калі ляжыць п'яны мужчына, а каля яго праходзяць жанчыны, то яны злосныя на яго. Кажуць аб ім: „Ну і што з яго, напіўся, бы свіння якая!?“ — і нават, бывае, плюнуць на яго. А мужчыны не сярдуюць на п'яную жанчыну, наадварот, часам апякуюцца ёю, занясуць яе на сена або ў салому, дзе ёй ужо і зусім добра зробіцца, але чамусьці жанчыны ўсё роўна не хочуць упівацца...

Не было б нядобрых мужчын і жанчын, каб іх пасартаваў каго з кім, змяніліся б у іх характары. Не прымерваючы, як прыпрэгчы ў касілку да каня кабылу, з якім, замест цягнуць, задам смаліць яна толькі, а з іншым канём пойдзе такая кабыла ажно выцягваючыся. Так яно ў прыродзе, так і ў людзей, бо ж і людзі — гэта прырода. Так яно і ўсё.

**Ф. Хлябіч**

## ПРЫКАЗКІ

Добра каша пры хлебу, добра баба пры дзеду.

*

Каб ажаніцца, даў бы вала, каб разжаніцца, даў бы два.

*

Лепей палюбіць маладога арла, чым старую саву.



**Дзеці пачатковай школы на першамайскім парадзе.**

# ЛЕТА Ў ЧАРОМСЕ ПАЧАЛОСЯ 1 V

Дом культуры ў Чаромсе вядзе хроніку сваёй працы. Хутчэй за ўсё — гэта вельмі багатая фотахроніка. Кожная фатаграфія цікавая, яна паказвае людзей пасёлкаў, гміны і рэгіструе важныя падзеі.

Дасканалы чаромхаўскі фатограф мае дзявочую постаць бландзінкі і называецца Тамара Кердалевіч. Яна беларускі ліцэй у Гайнаўцы закончыла з прозвішчам Навіцкая.

Тамара працуе ў Чаромхаўскім доме культуры. А Мікалай Гарадкевіч, шматгадовы дырэктар Чаромхаўскага дома культуры, ветліва паказаў нам здымкі свайго фатографа. Сёння прадстаўляем дзве з іх.

Здымкі гэтыя Тамара Кердалевіч зрабіла ў час першамайскага парада. Дзень гэты — сонечны, цёплы, першы праўдзівы летні дзень — быў у Чаромсе ўсеагульным святам.

Неўзабаве прадставім чытачам слаўны чаромхаўскі аркестр чыгуначнікаў.

**(вв)**

Фота Тамары Кердалевіч



**Мамы разам з найменшымі ўдзельнікамі парада.**

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W odpowiedzi na artykuł pt. „Nachalstwo kominiarza” zamieszczony w Waszym tygodniku Nr 12(1610) z dnia 22.03.87, r. dotyczący działalności usługowej naszej Spółdzielni oraz pracy wykonywanej przez naszego pracownika Eugeniusza Konończuka, Oddział Okręgowy Krajowej Spółdzielni Pracy Usług Kominiarskich w Białymstoku uprzejmie podaje co następuje.

W istocie sam fakt obowiązku świadczenia usług kominiarskich w odróżnieniu od innych usług, jak również obowiązek uiszczania przez usługobiorców określonych opłat jest dla wielu osób sprawą niezrozumiałą (a dla Redaktora „Niwy” — „nachalstwem”).

Mieszkańcy wielu wsi, a w tym i wsi Bondary najchętniej widzieliby kominiarza raz w roku, a i to na indywidualne wezwanie usługobiorcy.

Spółdzielnia nasza działa w oparciu o przepisy prawne: 1. Rozporządzenie Ministra Spraw Wewnętrznych z dnia 17.I.1969 (Dz. U. nr 5 poz. 39). 2. Ustawa o ochronie przeciwpożarowej z dnia 12.VI.1975 (Dz. U. nr 20 poz. 106 art. 13 pkt. 2,3), z których wynika, że czyszczenie przewodów kominowych jest obowiązkowe i może być wykonywane wyłącznie przez służbę kominiarską z jednoznacznym zachowaniem obowiązującej częstotliwości usług tj. 8 razy w roku, co 6 tygodni.

Ponadto w cytowanych przepisach określone zostały obowiązki właścicieli budynków, którzy winni ułatwiać pracownikom służby kominiarskiej wykonywanie czynności, utrzymywać w należytym stanie urządzenia kominowe, zabezpieczając prawidłowe dojście do kominów, oraz pilnować okresowego czyszczenia kominów i bieżącego ich naprawiania.

Podczas świadczenia usług każdy pracownik posiada książkę roboczą, w której usługobiorca własnym podpisem stwierdza wykonanie pracy i wówczas kominiarzowi wolno pobrać opłatę za 1 czyszczenie.

Opłaty pobierane są na podstawie cennika nr 60-U/81 z zastosowaniem od 1.01.1987 r. współczynnika 3,0 oraz stałej opłaty za dojście do obiektu 30 zł. Podczas kontroli książek roboczych Ob. Konończuka nie stwierdzono uchybień. Opłaty pobierane są za 1 czyszczenie i są we wszystkich przypadkach potwierdzone podpisami usługobiorców.

Na podstawie książki roboczej oraz przeprowadzonych rozmów wyjaśniających stwierdzono, iż w budynkach zainteresowanych: Luby Janiuk i Teodora Mirucia występują elementy grzewcze — po 1 przewodzie kominowym. W/g obowiązującego cennika w roku 1986 w jednym jak i drugim przypadku opłata roczna za 8 czyszczeń wynosi 376 zł, jednorazowa 47 zł. Od 1 stycznia 1987 r. opłaty zmieniły się wskutek wejścia współczynnika 3,0. W związku z czym opłata wzrosła i wynosi w obu przypadkach po 444 zł rocznie za 8 czyszczeń (jednorazowa 55,50).

Na przestrzeni roku 1986 w w/w budynkach nie wykonano ani razu czyszczenia przewodów kominowych i nie pobrano żadnych opłat, stwierdzono natomiast w budynku Waszej czytelniczki brak dojścia do komina.

Zainteresowana jak również jej sąsiad odmawiali każdorazowo czyszczenia przewodów uniemożliwiając naszemu pracownikowi wykonanie obowiązków.

O powstałej sytuacji mieliśmy obowiązek powiadomić Komendę Rejonowej Straży Pożarnej w Białymstoku, celem podjęcia stosownych decyzji wynikających z Rozporządzenia Ministra Spraw Wewnętrznych z dn. 2 maja 1969 (Dz. U. nr 16 art. 42) w sprawie zabezpieczenia p.pożarowego budynków.

Krajowa Spółdzielnia Pracy
Usług Kominiarskich
Oddział Okręgowy
Dyrektor
inż. Kazimierz Kasjański

Białystok, dnia 21.04.1987 r.

ён за жыцця найбольш любіў. Пры ім шаблю, рагаціну (кап'ё), сагайдак (футарал на стрэлы — калчан), пару сокалаў, пару хортаў, каня жывога пад сядлом, слугу яго найвярнейшага каханага, з ім звязаўшы, на стос дрэва паклалі, а таксама зброю яго і некаторую частку ваеннай здабычы ды трох жывых паланных немцаў, навокал дрэва падпаліўшы, з ім спалілі. А калі ўжо гарэла, тады плакалі пры вялікім смутку ўсяго рыцарства, кідалі ў агонь рысіныя і мядзвежыя кіпцюры па іхняму старадаўняму звычаю. Потым, калі целы згарэлі, попел асобна і косці, дзе якая не згарэла, княжыя, конскія і сабачыя, сабраўшы і ў труну паклаўшы, там жа ў зямлі пахавалі...“

У гэтым летапісным абразку ўражвае першабытная жорсткасць ды велічнасць старажытнага, дахрысціянскага, пахавальнага абраду. Ён быў уласцівы таксама літоўцам і жмудзінам, як і ўсходнім славянам, у тым дрыгавічам, крывічам і радзімічам. Мабыць, у нашых продкаў памяць пра яго яшчэ ў часы Гедымінавай смерці цалкам не загінула і нават глыбока



**Гедымін.**

ўшаноўвалася, бо, як бачна з летапісу, у гэтым нехрысціянскім абрадзе трупаспалення нябожчыка Гедыміна ўдзельнічала „ўсё рыцарства“, а яно ж у асноўным складалася з праваслаўных хрысціян-беларусаў! Ці не доказ гэта тае веравызнаўчай талерантнасці, якая была ўласціва Старабеларускай дзяржаве на заранку яе існавання?

Пры тым неабходна заўважыць: нехрысціянскі абрад пахавання не можа быць неабвяргальным доказам, што Гедымін не быў хрысціянінам. У 1324 г. у лісце да папы рымскага Іаана XXII ён пісаў: „...сам я веру ў Бога Айца і Сына і Духа Святога“ і з гэтага вынікае, што лічыў сябе хрысціянінам. Аднак, калі папа не здолеў суняць крыжакаў і яны працягвалі нападаць на Вялікае княства, Гедымін гнеўна сказаў папскаму пасольству: „Я не ведаю вашага папы і ведаць не хачу. Вызнаю я веру сваіх продкаў і не здраджу ёй да смерці“. З гэтых толькі на першы погляд спрэчных між сабою выказванняў таксама можа вынікаць, што Гедымін лічыў сябе праваслаўным, бо ся-

(Працяг на стар. 8)

# Зорка

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

# У ГАСЦЯХ У „ВЯСЁЛКІ"

Ці знойдзецца сярод вас хоць адзін, што не любіць хадзіць да сяброў на іманіны? Няма такіх.

Вось і „Зорка" вельмі ўцешылася, калі яе запрасіла „Вясёлка" да сябе на дзень нараджэння, ды не абы-які, а на юбілей, на трыццаціґоддзе.

Дзіцячы часопіс „Вясёлка", які выходзіць для беларускіх дзяцей у Мінску, усім нам добра вядомы. Ім жа на Беласточчыне карыстаюцца на ўроках беларускай мовы ды і звычайных чытачоў тут у „Вясёлкі" шмат.

Гэтай вясною „Вясёлцы" споўнілася 30 год. І яна на свой юбілей склікала ўсіх сваіх сяброў — чытачоў, пісьменнікаў, рэдактараў падобных дзіцячых часопісаў. Была сярод іх і „Зорка".

Сяброў у „Вясёлкі" аказалася вельмі многа. Таму сустрэчы з нагоды яе свята адбываліся ў многіх месцах — у палацах піянераў, у школах, у дамах культуры. А самае галоўнае свята — „вясёлчыны" іманіны адбыліся ў велізарным будынку Дзяржаўнага тэатра оперы і балету.

„Вясёлку" робяць маладыя людзі. Старэйшым з'яўляецца толькі яе заснавальнік, першы галоўны рэдактар Васіль Вітка, вядомы беларускі пісьменнік. Чытачы „Вясёлкі" ведаюць яго па казках, вершах, размовах з дзецьмі аб розных важных справах. У час юбілейнай урачыстасці, калі „Вясёлка" атрымала шмат высокіх узнагарод і цікавых падарункаў ад сяброў, сама яна таксама прызнала ўзнагароды. Васіль Вітка атрымаў званне лаўрэата „Вясёлкі" і ганаровы дыплом № 1. Наступныя два дыпломы і званні лаўрэатаў „Вясёлкі" атрымалі паэт Артур Вольскі і мастачка Алена Лось.

З цудоўнай мастацкай праграмай выступіў для „Вясёлкі" дзіцячы фальклорны калектыў „Зорачка", які дзейнічае пры Рэспубліканскім палацы піянераў у Мінску. У яго выкананні госці ўбачылі сцэнкі вітання вясны, абрады ў час жніва, сяння льну і іншыя, а таксама паслухалі шмат цудоўных беларускіх народных песень. І ўсё гэта было выканана так міла, на сцэне было так каляровa ад прыгожага адзення, усё суправаджалася такой цудоўнай музыкай, што на сэрцы і сапраўды рабілася па-веснавому радасна.

„Зорка", разам з украінскім часопісам „Барвінок" і кіргізскім „Байчэчэкеем" вырашыла наведаць рэдакцыю „Вясёлкі", паглядзець, як яна працуе, і асабіста пазнаёміцца з яе героем Васем Вясёлкіным. Не раз мы яго бачылі на старонках часопіса.

Асцярожна адчыняем дзверы ў пакой галоўнага рэдактара Уладзіміра Ліпскага і што бачым? Проста насупраць дзвярэй, на стале сядзіць Вася — велізная вясёлая лялька-хлапец у беларускім адзенні.

— Вітайце — гаворыць нам рэдактар. — Уваходзьце, Гэта наш новы Вася Вясёлкін. — Толькі што яго прынеслі дзеці з палаца піянераў у падарунку для „Вясёлкі" разам з пажаданнямі. Праўда, прыгожы хлопец? А наш ранейшы Вася Вясёлкін — значна меншы, вунь ён.

На століку ў куточку, сярод розных эмблем „Вясёлкі" і падарункаў ад дзяцей, стаіць наш добры знаёмы маленькі Вася. Цяпер у яго ўжо ёсць малодшы, хоць значна большы брат.

Галоўны рэдактар „Вясёлкі" Уладзімір Ліпскі — гэта вядомы ўжо пісьменнік, аўтар шматлікіх кніжак для дзяцей і моладзі. Тут жа разам з ім працуюць паэты Казімір Камейша і Мікола Маляўка. Іх вершы часта паяўляюцца на старонках „Вясёлкі". Усімі рэдакцыйнымі справамі, перш за ўсё арганізацыяй і падрыхтоўкай матэрыялаў да друку займаецца Тамара Тарасава. Яна — сакратар рэдакцыі.

Усе дзіцячыя пісьменнікі Беларусі, і паэты, і празаікі, свае самыя новыя творы, калі толькі яны могуць змясціцца на старонках „Вясёлкі", дасылаюць у часопіс. Таму яна такая цікавая.

Разам з іншымі „вясёлчынымі" гасцямі „Зорка" пабывала на выстаўцы малюнкаў з „Вясёлкі", якая арганізавана была ў фае кінатэатра „Піянер", а таксама на многіх сустрэчах „Вясёлкі" з яе чытачамі. І ўсюды беларускія дзеці цікавіліся жыццём дзяцей у Польшчы, чытачамі „Зоркі" і наогул беларусамі ў Польшчы. Усе хацелі навязаць перапіску з беластоцкімі школьнікамі.

За дні пабыўкі ў Мінску „Зорка" вельмі пасябравала з „Вясёлкай", пазнаёмілася з многімі беларускімі пісьменнікамі. А ад-

(Працяг на стар. 10)



„Зорка", „Барвінок", і „Байчэчэкей" у гасцях у „Вясёлкі". Злева направа: сакратар „Вясёлкі" Тамара Тарасава, галоўны рэдактар кіргізскага „Байчэчэкея" Тактасун Самудзінаў, галоўны рэдактар украінскага „Барвінка" Васіль Маруга, рэдактар „Вясёлкі" Казімір Камейша, галоўны рэдактар „Вясёлкі" Уладзімір Ліпскі, рэдактар „Вясёлкі" Мікола Маляўка і рэдактар „Зоркі" Яніна Чэрнякевіч.

Сяргей Грахоўскі

## ЗВАРОТ



Добра жыць тады на свеце,
Калі спяць спакойна дзеці,
Не грымяць начамі танкі,
А спяваюць калыханкі
Ў кожным доме, ў кожнай хаце
Заспакоеныя маці.
Добра жыць тады на свеце,
Калі ўся зямля ў цвеце
І ніводнага пялёстка
Не сячэ свінцовы лёскат.
Ды не кожнай маці спіцца,
І дзіця заснуць баіцца:
Недзе б'юць і б'юць гарматы,
У агні знікаюць хаты,
На вачах сівее маці:
На яе руках дзіцяці
Працінае куля грудзі.

Што ж вы думаеце, людзі?





**ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ, САРДЭЧНА ВІНШУЮ ВАС З ВАШЫМ СВЯТАМ — МІЖНАРОДНЫМ ДНЁМ ДЗЯЦЕЙ**

**„ЗОРКА"**

## МІКОЛКА І ІГОЛКА

Бабуленька старая
Дрыжачаю рукою
Ніяк не пападае
У вушка замалое.

Падняўся ўнук з падушкі
І ёй у вачавідкі
У іголкавае вушка
Ўцягнуў крутую нітку.

Азваўся тут Міколка:
— Бабуленька, паслухай,
Куплю табе іголку
Я з велізарным вухам.

Віктар Швед



(Працяг са стар. 9)

## У ГАСЦЯХ У „ВЯСЁЛКІ“

некаторых атрымала ў падарунку кніжкі з аўтографамі. „Вясёлка“ ж сабрала ў падарунак для „Зоркі“ цэлую бібліятэчку цікавых беларускіх кніжак. Вельмі дзякуем за такі падарунак. Цяпер „Зорка“ можа знаёміць нашых чытачоў з навейшымі творамі пісьменнікаў Беларусі.

А прывітанні для чытачоў „Зоркі“ прасілі перадаваць і ўкраінскі „Барвінок“, і рускі „Міша“ (выходзіць у Маскве), і кіргізскі „Байчэчэкей“.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**




**Гульня**

## ЧАРАДЗЕЙ

Гульня праводзіцца на пляцоўцы або ў прасторным памяшканні пры ўдзеле любой колькасці чалавек. Для гульні патрэбен невялікі прадмет (мячык, шышка, каменьчык і т.п.) — „чарадзей“.

Гуляючыя становяцца ў круг на адлегласці 1,5-2 метры адзін ад аднаго і перакідваюць „чарадзея“ паміж сабой. Калі „чарадзей“ упадзе на зямлю, усе павінны „замерці“ і стаяць да таго часу, пакуль хто-небудзь не парушыць маўчанне (павернецца, засмяецца і г.д.). За гэта ён атрымлівае штрафнае ачко. А гульня паўтараецца.

Атрымаўшыя па тры штрафныя ачкі выбываюць з гульні. Перамагае ігрок, які застаўся апошнім у крузе.

## Вясёлы куточак

На стале ляжаць тры яблыкі. Хлопчыку вельмі хочацца іх з'есці.

— Колькі яблыкаў ёсць? — пытаецца маці.

— Тры.

— Значыць, — кажа яна, — адно для таты, адно для цябе і адно для мяне.

Хлопчык бярэ адзін яблык, з'ядае яго. Але хоча яшчэ.

— Колькі асталося яблыкаў? — пытаецца маці.

— Два, — адказвае хлопчык, — адно для таты, і адно для мяне.

— А дзе ж падзеўся мой яблык? — дзівіцца маці.

— А твой я ўжо з'еў, — адказаў хлопчык.

## МАЛЕНЬКІ ЗЛОДЗЕЙ

У маім агародзе ў густым малінніку індзючка пачала несціся. Тры яйкі пакідала ў гняздзе. Аднойчы бачу — не тры, а толькі два яйкі ўжо ляжаць на месцы. Прыгледзеўшыся, убачыў неападаль гнязда і трэцяе. Ды што гэта? Трэцяе яйка было лёгкае і мела на баку маленькую дзірачку. Я зразумеў: нехта вельмі спрытны падкрадаецца да гнязда і адно яйка выпівае. Але хто? Можа пацук — падумаў. Але ж не. Пацукі не выводзяцца ў малінніку і любяць больш сырое месца ды пад дахам.

Аднойчы пад вечар, ужо цямнела, гаспадыня праходзіла каля малінніка і пачула адтуль нейкае фурканне: фур-фур. Яе зацікавіла, хто там так фурчыць, якраз каля таго гнязда індзючкі. Падкралася і ўбачыла, таго, хто выпіваў нашы яйкі. Быў гэта... малы, сімпатычны вожык. Ён і цяпер спакойна смактаў сабе новае яйка. Зусім не спужаўся, толькі як бы са злосцю фуркнуў: чаго мне перашкаджаеш!

Другі раз Бажэнка застала вожыка ў гняздзе. Ніхто з нас аднак не адганяў яго. Яйка — не маёнтак, а вожыкі не толькі сімпатычныя звяркі, але і вельмі карысныя. Яны нішчаць шкоднікаў сельскай гаспадаркі.

**М. Панфілюк**



## ЗАГАДКІ

1. І сваё дзіця не забыла, і чужых малачком напаіла.
2. Пасярод двара стаіць гара: спераду вілы, ззаду мятла.
3. Два слухаюць, два нюхаюць, чатыры стукаюць, семсот свішчуць.
4. Чатыры братцы-барадатцы. Як у лес ідуць — дамоў глядзяць, як з лесу ідуць — у лес глядзяць.
5. Не араты, не каваль, не плотнік, а першы на вёсцы работнік.
6. Не прадзе, не тчэ, а людзей апранае.
7. З барадою, а не дзед; з рагамі, а не бык; дояць, а не карова; лыкі дзярэ, а лапці не пляце.
8. Нічога не баліць, а ўсё стогне.
9. З людзьмі сябруе, хату вартуе, жыве пад ганкам, хвост абаранкам.

Адказы ў наступным нумары

**АДКАЗ НА ЗАГАДКУ З 21 НУМАРА „ЗОРКІ“**
**„Па зямлі я не хаджу...“ (Рыба)**

Павел Марціновіч

## ШАКАЛАДНЫ ГРУЗАВІК

Каля фабрыкі —
Крык!
Дзесьці знік
Грузавік.
Грузавік
Двухтонны,
Шакаладу
Поўны.
У шафёра —
Гора.
Усім шкада
Шафёра.
Для слухмяных
Дашкалят
Ён развозіў
Шакалад.
Быццам
Грушы, яблыкі
З шакаладнай
Фабрыкі.
Як знайсці
Машыну тую?
Ледзь шафёр
Не лямантуе.
Грузавік —
Не воўк, не дзік,
Сам не ўцёк
Той грузавік.
Грузавік
У горадзе
Знік
Шукайма
Злодзея.

*

Добра ў цырку,
Слаўна ў цырку!
Тут святло зіхоча
Зырка.
Тут і весела,
І шумна...
...Дрэсіроўшчык
Сёння
Сумны.
Цяжка на яго
Глядзець:
Знік яго
Цыркач-мядзведзь.
У які,
Каб ведаць,
Бок
Ноччу
З клеткі
Ён уцёк?

*

...Ужо світала
Ледзьве-ледзь,
Якраз ля фабрыкі
Мядзведзь
Ступаў,
Сярдзіта сапучы,
Стаміўся Мішка
Уначы.
Ён выбрацца спяшаўся
У лес,
І ў грузавік
Цыркач
Залез.
Схапіўся лапаю
За руль
І гораду сказаў:
— Пакуль!



## ПАЗНАЁМІМСЯ

Раман Свентахоўскі, Трывежа, 62, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* * *

Юрка Шварц, Навакорніна 100, пошта 17-205 Новаберазова, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 344068, г. Ростов-на-Дону, пр. Октября, 36, кв. 13. Соловьёва Люда. 7 клас.

* * *

СССР, 346511, Ростовская обл., г. Шахты-11, ул. Горная, 19а. Кардаш Люде. 12 год.

* * *

СССР, 344114, Ростов-на-Дону, ул. Орбитальная, 70/2, кв. 72. Сидорова Светлана. 15 год.

* * *

СССР, 163059, г. Архангельск-59, ул. Партизанская, 36, кв. 8. Базаленко Роману. 4 клас.

* * *

СССР, 346916, г. Новошахтинск, Ростовской обл., ул. Лебедева, 62, Бесклинской Лене. 11 год.

* * *

СССР, 346504, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Белинского, 2. Тименчуковой Оксане. 4 клас.

* * *

СССР, 344038, Ростов-на-Дону, ул. Новаторов, 8, кв. 65. Пащенко Тане. 12 год.

* * *

СССР, 344038, г. Ростов-на-Дону, ул. Ленина, 58, кв. 56. Роговой Тане. 12 год.

* * *

Еля Барташэвіч, вучаніца 4 класа, в. Ляшукі, 56, пошта 17-221 Старое Ляўкова, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 301254, Тульская обл., Одоевский район, село Рылёво, интернат. Тарасовой Инне. 8 клас.

* * *

Ангеліна Харкевіч, Ляўкова 71/14, пошта 17-221 Старое Ляўкова, Беластоцкае ваяводства. 6 клас.

## А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



Знайдзіце на малюнку сем звяркоў.


Адрас рэдакцыі: „Зорка“ 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1

З суседскага агародчыка

## НЕДААЦЭНКА

У дзіцячым садзе „Вішанька“ праходзіла чарговая сустрэча дзетак з цікавымі людзьмі. Гэтым разам да малышоў прыбыў дырэктар мясцовай фабрыкі дзіцячых забавак Іван Мікалаевіч Філаненка.

Загадчыца „Вішанькі“ Марыя Іванаўна папрасіла госця:

— Вы ж, Іван Мікалаевіч, калі ласка, не вельмі афіцыйна, без розных там лічбаў і працэнтаў. Гэта ж дзеці. Гаварыце простай мовай, аб простых рэчах. І ўсё будзе добра.

Калі ўвайшлі ў пакой, дзе сабралася дзятва, ён цёпла прывітаўся і пачаў:

— Дарагія дзеці! Я прыйшоў да вас з фабрыкі, на якой вырабляюцца забаўкі. Якія забаўкі? Гэта, перш за ўсё, лялькі: дзяўчаткі і хлопчыкі, бялявыя і чарнявыя, у розных сукеначках, касцюмчыках і чаравічках. А яшчэ нашы майстры вырабляюць мядзведзяў, сланоў, кракадзілаў...

Доўгенька вось так расказваў Іван Мікалаевіч пра забаўкі. Дзеткі дружна пляскалі яму ў далоні. А калі гоман сціх, падняўся маленькі Сяргейка і сказаў:

— А ўсё-ткі, дзядзька, вы не сказалі, на колькі працэнтаў ваша фабрыка план выконвае.

**Анатоль Бурачонак**



# НІЎКА



— Мой муж яшчэ верыць, што дзяцей прыносіць бусел!..
(„Монда эмігрісіка“, Італія).

## АПРАЎДАЎСЯ

— Навошта ты ўсю капусту патаптаў? — дакарае маці малога Віцю.

— Ты ж казала, што дзеці ў капусце растуць, дык я шукаў сабе брацікa.

## НЕ ВЯДОМА, ЦІ БАЛІЦЬ

— Алесь, ты ўчора быў у зубнога лекара?

— Быў!

— Ну як, цяпер зуб не баліць?

— Не ведаю, ён у доктара застаўся.

## У ДЗІЦЯЧЫМ САДЗЕ

— Ты раўнуеш дарма! Мужчына, з якім ты бачыў мяне ўчора, — гэта мой тата.

## ЗАКОН

Сярожа правініўся, і бабуля абяцае ўсё расказаць бацькам.

— Не раскажаш, — заяўляе Сярожа.

— Гэта ж чаму?

— Таму што мы — свае. А сваіх выдаваць нельга.

## АРГУМЕНТ

— Зноў ты, Валодзік, з нямытымі нагамі ў пасцель кладзешся?

— А дзе я вазьму іншыя?





Дзіцятка Бог даў. А аліменты хто будзе плаціць?

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Колькі табе паўтараць, Петар, каб ты не смеў гуляць з нявыхаванымі хлопчыкамі? Чаму ты не гуляеш з ветлівымі дзецьмі?

— Ім не дазваляюць гуляць са мной!

*

Гі расказваў сваім школьным сябрам:

— Мой тата заўсёды носіць з сабой тры пары акуляраў.

— Тры пары? Навошта?

— Адны, каб добра бачыць зблізку, другія — здалёку.

— А трэція?

— Каб шукаць дзве другія пары акуляраў.

*

Аднойчы дзяўчынка глядзела кінафільм „Мачыха“. А потым пытаецца:

— Мама, чаму цёцю называюць „мачыхай“? Яна ж такая добрая і любіць дзяцей.

З суседскага агародчыка

## ЧЫТАЮЧАЯ ПУБЛІКА

Мы ведаем не першы год,
І ведае планета,
Што ў нас чытаючы народ,
Што вельмі добра гэта.

Зайдзі ў тралейбус, паглядзі,
Цярпення набярыся...
— Сядзі, касацік мой, сядзі,
Пад старасць настаішся, —

Пачуеш голас-дабрадзей
То там, то тут ў салоне
Старых заслужаных людзей
Да смаркачоў-піжонаў.

Газетаю прыкрыўшы твар,
Спакойненька упроўшы,
Сядзіць вось гэтакі „Буквар“
І чхае на старэйшых.

Другі чытае ўсё падрад
Праз акуляраў лупу.
Ды ён жа месца роднай нат
І маце́ры не ўступіць.

Як ні прыкінь тут, ні зірні,
Няма ў юнцоў і звання
Элементарных дабрыні,
Увагі, выхавання.

Таму нямала ёсць падстаў
Вучыць дзіця з калыскі:
Не важна, колькі прачытаў —
Што вычытаў у кніжцы.

**Уладзімір Правасуд**



— На такіх чарапахах, сынок, лятялі калісьці людзі.

## НАПАЛОВУ

— Якое надвор'е? — пытае маці ў малога, які прыбег са двара.

— Крыху холадна, крыху цёпла! — адказаў той.



## ЛОГІКА

— Мама, мы куды ідзем?

— Фатаграфавацца.

— А навошта ты напарфумавалася? Дык пах усё роўна не атрымаецца на здымцы.



Юныя калумбы.

# Курёзы

## МАЛЫЯ ПРАТЭСТАНТЫ

Своеасаблівы пратэст сваім бацькам і наогул дарослым супраць бяспраўя заяўляюць юныя іспанцы. Многія з іх, пакідаючы родны дом назаўсёды, далучаюцца да дарослых жабракоў, якія бяруць дзяцей у сваю кампанію, каб больш расчуліць прахожых выглядам абарванага, а то і напаўгалага маленькага суайчынніка.

Адзін 11-гадовы швед з г. Еліварэ падаў у суд на сваіх бацькоў за тое, што білі яго бярозавым венікам. Яму стала вядома, што ў Швецыі фізічныя пакаранні дзяцей забаронены.

У Рыо-дэ-Жанейра дзеці знайшлі больш эфектыўны сродак пазбаўлення залежнасці ад бацькоў. Яны ідуць служыць у паліцыю. І там было створана такое спецыяльнае паліцэйскае падраздзяленне з падросткаў ва ўзросце ад 8 да 14 гадоў.

У ЗША дзеці змагаюцца за свае правы метадамі, што найбольш уласцівыя для гэтай краіны. Яны проста ўцякаюць з дому ў масавым парадку. Па афіцыйнай статыстыцы ў Амерыцы штогод пакідаюць бацькоў больш за адзін мільён дзяцей. Гэтаму спрыяюць і скасаванні шлюбаў, што павялічваюцца, бо разведзеныя бацькі крадуць пераманьваючы дзяцей адзін у аднаго, — гэта лічба складае да 150 тысяч выпадкаў у год. Каля 10 тысяч маленькіх амерыканцаў крадуць чужыя людзі, а наогул ад 20 да 50 тысяч хлопчыкаў і дзяўчынак знікаюць назаўсёды, прападаюць невядома дзе.




Калі вы хочаце, каб дзеці не прыслухоўваліся да таго, што вы гаворыце паміж сабою, рабіце выгляд, што звяртаецеся менавіта да іх.